23 ЛІПЕНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№82 (613) КОШТ СВАБОДНЫ




# Першы дзень свабоды

## У сераду ў Мінску прайшло святкаванне заканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ
Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**Як вядома, беларуская Канстытуцыя дае магчымасць прэзідэнту кіраваць краінай на працягу пяці гадоў. 20 ліпеня гэты тэрмін для Лукашэнкі скончыўся. Шмат людзей неўпадабалі ягонае кіраўніцтва. Таму заканчэнне ягоных паўнамоцтваў сталася сапраўдным святам для многіх беларусаў.**

Да акцыі, якую так доўга чакалі і на якую былі ўскладзеныя вялікія спадзяванні апазіцыі, улады падрыхтаваліся сур'ёзна, і гэта было бачна ўжо прыкладна а 9-ай гадзіне раніцы. У гэты час у двары жылых дамоў у цэнтры горада заязджалі аўтобусы з амонаўцамі, грузавікі, вадамёты і іншая спецтэхніка. Толькі ў раён Кастрычніцкай плошчы было сцягнута некалькі тысяч міліцыянтаў і байцоў унутраных войскаў.

А 17-ай гадзіне на Кастрычніцкай плошчы сабралася 5-6 тысяч жадаючых узяць удзел ва ўрачыстым святкаванні. Сцягоў і плакатаў амаль не было, і таму акцыя выглядала як масавыя гулянні, на якія дазвол уладаў не патрэбны. На працягу гадзіны людзі чакалі, калі пачнецца дзеянне.

А 18-ай людзі па ходніках пайшлі на плошчу Незалежнасці. Дэманстранты некалькі разоў прайшліся вакол галоўнай плошчы Мінска і нават крыху пасядзелі проста на зямлі, спрабуючы тым самым утварыць нейкі прэцэдэнт «сядзячай акцыі». У хуткім часе з'явілася інфармацыя, што Вярхоўны Савет сабраўся ў будынку на вуліцы Карла Маркса, дзе раней размяшчалася Вышэйшая партыйная школа, а цяпер – філфак БДУ, у нейкіх 300 метрах ад рэзідэнцыі Лукашэнкі. Натоўп рушыў туды, каб падтрымаць прадстаўнікоў заканадаўчай улады.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання прызначылі сваё паседжанне, каб увянчаць народную акцыю і засведчыць пераход улады да апазіцыйнага парламента як да адзінага легітымнага органа ўлады ў Беларусі. Парламентары збіраліся ў цэнтры горада канспіратыўна, па два-тры чалавекі на «кропку». Пасля маленькімі групкамі кіраваліся на вул. К.Маркса.

Вярхоўны Савет абмяркоўваў пытанні пра намеснікаў старшыні і членаў Прэзідыума ВС, а таксама пра палітычную сітуацыю ў Беларусі і захады па пераадольванні крызісу ўлады ў краіне. Першым намеснікам старшыні ВС на паседжанні быў абраны Віктар Ганчар. Гэта значыць, што менавіта ён стане выконваючым абавязкі кіраўніка заканадаўчай улады, калі Сямён Шарэцкі возьме на сябе абавязкі прэзідэнта. Акрамя таго, дэпутаты прынялі зварот да беларускага народа. Потым дэпутаты стварылі мандатную камісію, якая мусіць пацвердзіць паўнамоцтвы кожнага дэпутата. Пасля гэтага дэпутаты перапынілі сваю працу «на няпэўны тэрмін» і пакінулі універсітэцкі корпус. Мандатная камісія ўсю ноч на канспіратыўнай кватэры працягвала сваю працу.


Супрацьстаянне на Кастрычніцкай плошчы

Фота IREX/ProMedia


Дэманстранты сутыкнуліся з кардонам у квартале ад рэзідэнцыі прэзідэнта

Фота Ул.ШЛАПАКА


Сямён Шарэцкі ў атачэнні аховы

Фота Ул.ШЛАПАКА

Уся вуліца перад будынкам філфака была запруджаная народам. Людзі чакалі ад Вярхоўнага Савета інфармацыю пра тое, што цяпер адбываецца ў краіне. Чакалі і выступу новаспечанага прэзідэнта Шарэцкага. Пры гэтым вялікая частка прысутных прагнула толькі двух словаў Сямёна Георгіевіча: «На рэзідэнцыю!», каб змясціі з дарогі выстраеныя ля будынка Канстытуцыйнага суда кардоны. Аднак Шарэцкі ўжо паспеў з'ехаць таксама на канспіратыўную кватэру. Замест яго перад двух-трохтысячным натоўпам выступіў Віктар Ганчар, якога сустрэлі бурнымі апладысментамі. Пасля выступлення Ганчар і група дэпутатаў павялі людзей на Кастрычніцкую плошчу.

Усе пад'ходы да прэзідэнцкай рэзідэнцыі былі заблакаваныя амонаўцамі ў спецабмундзіраванні – у шлемах і са шчытамі. Тым не менш, сілавыя структуры не змаглі перашкодзіць людзям дайсці да плошчы, дзе адбыўся мітынг.

Правядзенне мерапрыемства было ўскладненае адсутнасцю гукаўзмацняльнай тэхнікі. Выконваючы абавязкі старшыні БНФ Сяргей Папкоў адмовіўся выдаць дэманстрантам мегафоны. Праўда, пазней мегафоны знайшліся, і прамовы апошніх выступоўцаў ужо гучалі на ўсю плошчу.

Людзі разыходзіліся з пачуццём свята – скончыўся першы дзень свабоды, першы дзень без Лукашэнкі. ■

# Лукашенко лишается фактического международного признания

Иван БАБИЧЕВ

**Международная реакция на окончание президентских полномочий Лукашенко была довольно резкой. Громче всех 20 июля высказался по этому поводу Госдепартамент США.**

ЗАЯВЛЕНИЕ
ПРЕСС-СЕКРЕТАРЯ
ГОСДЕПАРТАМЕНТА
США ДЖЕЙМСА РУБИНА

Окончание срока законного нахождения на посту белорусского Президента Лукашенко сегодня еще раз подчеркивает необходимость выхода страны из конституционного тупика. Режим Лукашенко несет ответственность за это положение, которое стало результатом изменений, внесенных г-ном Лукашенко в белорусскую Конституцию в результате неконституционного референдума 1996 г. Этот референдум получил широкое осуждение международного сообщества. Упомянутые изменения, а также самовольное продолжение срока полномочий после 20 июля 1999 г. и подавление высказываемых протестов еще больше подорвали демократическую легитимность Лукашенко и противоречат демократическим принципам, на которых он избирался.

*Легитимность Лукашенко как избранного представителя белорусского народа может быть возобновлена только через свободные и справедливые демократические выборы, в которых все политические партии могли бы принять участие на равноправной основе. Верховный Совет, который Соединенные Штаты и большинство стран международного сообщества по-прежнему продолжают признавать единственным законным парламентом Беларуси, имеет право обратиться со своей позицией к жителям Беларуси. Это право надо уважать. Мы снова призываем правительство Беларуси начать диалог с оппозицией без всяких предварительных условий и обеспечить выполнение международно признанных прав человека. Только через диалог и уважение к правам человека Беларусь может вернуться на путь демократии и занять свое законное место в международном сообществе.*

Отвечая на вопросы журналистов во время брифинга 21 июля, Рубин сказал буквально следующее:

***– Собираются ли США прибегнуть к практическим мерам – отзыв посла, наложение санкций или нечто в этом роде?***

– Фактически мы будем продолжать работу с режимом Лукашенко, несмотря на то, что в наших глазах он больше не является демократически избранным легитимным президентом... Мы будем осуществлять контакты на уровне де-факто, но это вовсе не означает принятия нами его легитимности. Неуважение президентом Лукашенко прав человека и демократии давно стало камнем преткновения в наших двусторонних отношениях. До тех пор, пока не произойдет улучшений в этом направлении, наша политика «избирательного вмешательства» будет в силе. ▶

*Окончание на стр.7*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### За незалежнасць!

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) атрымала ў Мінгарвыканкаме дазвол на правядзенне 27 ліпеня шэсця і мітынгу. Акцыя прысвечаная 9-ай гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларусі і скіраваная супраць узурпацыі ўлады былым прэзідэнтам краіны Лукашэнкам. Збор удзельнікаў прызначаны а 18-й гадзіне на плошчы Якуба Коласа.

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

### Дзяржава не плаціць заробкі сялянам

Паўтрыльёна рублёў завінавацілася дзяржава працаўнікам сяла. Пра гэта ўчора паведаміў А.Лукашэнка падчас селектарнай нарады, прысвечанай арганізацыі ўборкі і праблемам аграпрамысловага комплексу. Ён патрабаваў ад урада пагасіць гэтую запазычанасць на працягу тыдня. А інакш — ... самі ведаеце што.

### Да сяброў у Ірак

Віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Уладзімір Заматалін у сераду адбыў з дзесяцідзённым візітам у Ірак. Там ён будзе займацца развіццём двухбаковага супрацоўніцтва. Прадугледжваецца, што У.Заматалін сустрэнецца з прэзідэнтам Ірака.

### Заступіліся

Сем буйнейшых праваабарончых арганізацыяў ЗША звярнуліся да віцэ-прэзідэнта Эла Гора наконт сітуацыі ў Беларусі. Яны нагадалі яму пра самыя гучныя факты парушэння правоў чалавека ў нашай краіне і падтрымалі сённяшняе крытычнае стаўленне ЗША да беларускага рэжыму.

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

наша свабода

## НАДВОР'Е




**24 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па большай частцы тэрыторыі, а ў **Гродзенскай** і днём у **Брэсцкай** абласцях месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер паўднёвы з пераходам у заходні, 6—10 м/сек., пры навальніцах — 15—20 м/сек., па **Гродзенскай** вобласці — да 14 м/сек. Тэмпература ноччу 10—15 градусаў.

### Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**440 000**

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# Из тени — в свет

Екатерина ВЫСОЦКАЯ

**«Первым днем без Лукашенко» назвала оппозиция дату 21 июля. Этот день стал знаковым для 35 депутатов разогнанного Лукашенко Верховного Совета, которые умудрились под носом у президента провести заседание, ставшее эпохальным. В это время эмоционально заряженная толпа ждала своего героя. Спустя сорок минут появился Семен Шарецкий в окружении охраны, сел в джип и... уехал в неизвестном направлении. К собравшимся у здания пяти тысячам вышел Виктор ГОНЧАР и, моментально сориентировавшись в ситуации, возглавил колонну.**

В журналистских статьях, на фото и кинопленке, конечно же, останутся все удачи и неудачи этого дня. Но людская память избирательна, в ней сохраняются, как правило, лишь наиболее пафосные моменты. И этим событием станет, безусловно, выход Виктора Гончара в народ. Кто-то уже успел заметить: мол, молодец Гончар, раскручивается по американской модели. Я бы сказала иначе: история дала шанс в этот день именно этому человеку и он не отказался от него.

По следам событий НАВІНЫ задали свои вопросы исполняющему с этого времени обязанности главы Верховного Совета Виктору ГОНЧАРУ.

***— Вы согласились стать первым заместителем спикера с условием, что Семен Шарецкий принимает на себя всю полноту власти в стране. Выполнено ли это условие?***

— На самом деле условие, которое вы определили как условие к Шарецкому, является программным и связано с видением деятельности Верховного Совета. Если ВС действует как конституционный орган власти, выполняет свои обязанности, вытекающие из Конституции, я действительно согласен возглавлять такой орган. Само собой разумеется, что и Шарецкий в этой ситуации обязан выполнять президентские функции. Относительно ближайших действий Семена Георгиевича я не имею полномочий что-либо сказать, но в ближайшее время будет то, что журналисты называют громким информационным поводом.

***— Связано ли это с какими-то новыми назначениями?***

— Для того, чтобы перейти к формированию конституционных структур, Шарецкий должен принять на себя обязанности президента. Я думаю, что из характера моего ответа все достаточно ясно.

***— Какова юридическая подоплека перехода власти к Семену Шарецкому?***

— В соответствии с Конституцией 1994 года, в случае вакансии должности президента исполнение обязанностей президента переходит к председателю Верховного Совета. Соответственно, исполнение обязанностей спикера переходит к первому заместителю председателя Верховного Совета. Поэтому те кадровые рокировки, которые были осуществлены на заседании Верховного Совета, есть необходимая юридическая предпосылка для дальнейшей работы парламента и конкретных должностных лиц.

***— Чем будет заниматься мандатная комиссия?***

— Что касается мандатной комиссии, то у нее гигантский объем работы, поскольку нам необходимо разобраться с полномочиями каждого депутата ВС, ведь формирование новых структур власти должно быть обсолютно безупречным с юридической точки зрения. Только тогда наши шаги будут сильными и результативными.

***— Где сейчас находится Шарецкий? Нет ли угрозы его безопасности?***

— В ближайшие сутки в рамках того информационного повода, о котором я говорил, будет полная ясность и по этим вопросам.

***— Как получилось, что практически под носом у Лукашенко Верховный Совет смог провести свое заседание?***

— Избрание места заседания должно было подчеркнуть уже само по себе силу проводимой политической акции. Что касается «как получилось», то это – очевидное свидетельство возможностей нового руководства Верховного Совета.

***— Стояла ли задача 21 июля попытаться отобрать власть у Лукашенко?***

— Все практические шаги и действия Верховного Совета будут направлены на реализацию именно этой задачи.

***— Что должно произойти со страной, с нами, чтобы власть, пока только номинально перешедшая к оппозиции, реально оказалась в руках демократических сил?***

— Только ответственность каждого гражданина перед собой, перед страной может определить реальный переход власти в руки демократических сил. Каждый гражданин виновен в том, говоря словами из последней передовицы НАВІНАЎ, что «уже в течение пяти лет нами управляет воинствующий Хам». Если наши дети проведут свою жизнь в зловонной атмосфере лжи и лицемерия, то это только наша вина. Мы допустили такое развитие событий, и нам эту ситуацию исправлять. ■


Фота Ул. ШЛАПАКА

● **Виктор Гончар** выходит из здания, в котором проходило эпохальное заседание Верховного Совета

ГОЛАС ВУЛІЦЫ

**1. Якія якасці павінен мець чалавек, які б змяніў Лукашэнку на пасадзе прэзідэнта?**
**2. Якога палітыка вы бачыце на гэтай пасадзе?**


**Таццяна, эканаміст**

— Павінен падтрымліваць прадпрымальнікаў, прыватную ўласнасць, гэта перш за ўсё. А то ў нас у гэтым плане сярэднявечча.

— Ну, Шарэцкі, я думаю. Больш асабліва нікога не ведаю.


**СОЗІНАЎ Алег, выкладчык**

— Прафесіяналізм, папершае, і каб разбіраўся ў эканоміцы і юрыспрудэнцыі, меў досвед, з каго складаць сваю каманду. Не баяўся б крытыкі, і каб на паваротах, як Лукашэнку, не заносіла.

— Калісьці думаў, што Карпенка, пакуль Генадзь Дзмітрыевіч не пайшоў ад нас. Цяпер я такіх не бачу. Хіба што Чыгір.


**Вадзім, аператар ЭВМ**

— Меншы папуліст, чым Лукашэнка. А таксама гэта павінен быць эканаміст-самазабойца, які будзе расхлёбваць тое, што мы маем цяпер.

— Мне найбольш імпануе Шушкевіч.


**Аляксандр, фізік**

— Павінен быць рыначнікам, і каб стаяў тварам да Захаду.

— Персонаў, дастойных такой пасады, на жаль, не бачу.


**Аляксандр, электроншчык**

— Высокаадукаваны, культурны, з вялікім жыццёвым вопытам, і яшчэ — каб меў нармальную сям'ю.

— Я думаю, што дастойным прэзідэнтам быў бы Васіль Быкаў.

**Апытвалі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ, Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

МЕРКАВАННІ

# Победившие страх

Николай ХАЛЕЗИН, Дмитрий БОНДАРЕНКО

**Время «Ч» наступило. Утром 21 июля белорусский президент из легитимного главы государства превратился в гражданина Лукашенко, узурпировавшего власть в стране. Отныне и до проведения новых президентских выборов руководителем страны является Председатель Верховного Совета Семен Шарецкий.**

Люди, собравшиеся на Октябрьской площади Минска, а затем переместившиеся к зданию филологического факультета БГУ на улице Карла Маркса, скандировали новый для Беларуси лозунг: «Первый день без Луки!» От страсти, с какой звучали эти слова, в воздухе разливался аромат свободы. В действительности же Лукашенко остался на своем месте, и ему до сих пор подчиняются все институты власти, исполняя приказы сверху. Правда, уже без прежнего рвения.

Роковой для Александра Лукашенко день породил массу вопросов и домыслов – уж больно загадочными выглядели некоторые его события. Если попытаться их проанализировать, то приходишь к выводу, что перспективы ранее легитимного президента не такие уж и радужные, как нас хотят в этом убедить государственные средства массовой информации.

## Труба зовет

На площадь в этот раз пришло около 5 тысяч человек. Если сравнивать с 1996 или 1997 годами, то цифра выглядит не такой уж и большой. В те годы уличные акции собирали и 10, и 20 тысяч человек. Но время изменилось. Репрессии, развернутые властями против инакомыслящих, и неразумные действия оппозиции породили депрессию и неверие в свои силы среди политически активного населения. В среду, во время акции, временами казалось, что на улицу вышли совсем другие люди – без страха и рабской печали в глазах. Они противостояли «тихарям», пытавшимся арестовать активистов, поздравляли сотрудников правоохранительных органов с «первым днем свободы» и не прятали глаз от милицейских телекамер.

Единственная ошибка, которую допустили организаторы, – это ставка на рабочее движение, которое пытается возглавить Сергей Антончик. Его бесталанная организаторская работа давно известна в политической среде. Проведенный накануне акции съезд рабочих практически не принес результатов – среди демонстрантов их присутствовало менее полутора тысяч человек.

Если учесть, что акция не была санкционирована властями, проходила в середине июля, когда город практически пуст, а на улице стояла тридцатиградусная жара, то можно быть уверенными, что осенью на подобную акцию может выйти народу в 3-5 раз больше.

## Захват

Вопрос, как депутаты оказались в здании филфака БГУ и провели там свое заседание, еще долго будет волновать умы белорусских граждан. На сей счет есть несколько различных мнений. Одни говорят, что служба безопасности, обеспечивающая работу Верховного Совета, с блеском провела операцию по захвату здания; другие утверждают, что помещение было арендовано на подставное лицо; третьи – что власти сами пустили туда депутатов, дабы не было скандала с проведением сессии ВС в Смоленске или Москве. Но в любом случае можно сделать однозначный вывод – кто-то из силовиков уже начал работать против Лукашенко. Ведь если бы у правоохранительных органов возникло желание оккупировать здание на Карла Маркса – они бы это сделали, не встретив адекватного отпора.

Сегодня именно силовые структуры оказались заложниками политики Александра Лукашенко. Невыполнение его приказа влечет за собой немедленное наказание, а выполнение – суровые последствия. Именно поэтому сотрудники органов втайне мечтают о моментальной смене власти.

## Преемники

Верховный Совет повел себя мужественно и достаточно точно в сложившейся ситуации. Невнятную позицию продемонстрировала лишь депутат Ольга Абрамова, мастерски воздерживавшаяся при каждом голосовании. Видимо, сказались российские корни возглавляемой ею партии – Белорусское объединение «Яблоко» (Явлинский-Болдырев-Лукин).

Основная коллизия развернулась вокруг избрания первым заместителем Председателя Верховного Совета Виктора Гончара. За него проголосовали даже те депутаты, которые ранее были непримиримыми оппонентами тактики действий бывшего председателя Центризбиркома. Во время своих выступлений они выражали пожелание Гончару сделать выводы из ситуации, которая сложилась вокруг президентских выборов 16 мая, и учесть допущенные им промахи. Согласие Гончара занять пост первого заместителя напрямую зависело от Семена Шарецкого. Виктор Иосифович поставил условие – он займет этот пост только в том случае, если Председатель ВС примет на себя всю полноту власти в стране. Тогда Гончар становится исполняющим обязанности Председателя Верховного Совета. Именно эта комбинация в итоге и получилась: Семен Шарецкий стал исполняющим обязанности президента, а Виктор Гончар – и.о. Председателя Верховного Совета.

Прогнозировать развитие ситуации, которая сложилась в стране, достаточно сложно. Скорее всего, основными компонентами борьбы за власть станут уличные акции и консультации, проводимые депутатами Верховного Совета с наиболее влиятельными представителями властных структур. А Александру Лукашенко останется лишь наблюдать за всем этим со стороны или пытаться сломать игру оппозиции при помощи долгосрочных переговоров при посредничестве ОБСЕ. Его положению сегодня позавидует разве что покойник – международные структуры заявили о непризнании нынешнего белорусского режима, внутри властных структур смута, а народ побеждает страх. ■

